ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

# Блогера Пятрухіна судзілі як савецкага дысідэнта



Брэсцкі блогер **Сяргей Пятрухін** *(на фота)* вядомы ў Беларусі сваімі відэаролікамі на вострыя сацыяльныя тэмы. З 2018 года разам з калегам з Бярозы **Аляксандрам Кабанавым** на YouTube-каналах «Народны рэпарцёр» і «YouTube-дэпутаты» асвятляе пратэсты жыхароў абласнога цэнтра ў сувязі з будаўніцтвам акумулятарнага завода блізка ад гарадской мяжы. Таксама Пятрухін вядомы сваімі шматлікім відэаролікамі, якія крытыкуюць дзейнасць прадстаўнікоў мясцовай улады, у тым ліку і органаў унутраных спраў.

За сваю актыўнасць блогеры неаднаразова прыцягваліся да адміністрацыйнай адказнасці. Іх затрымлівалі, дома праводзілі ператрусы, штрафавалі на буйныя сумы. Але дзякуючы дапамозе людзей блогерам удавалася аплачваць штрафы. Таму ўлады вырашылі дзейнічаць больш жорстка: на Сяргея Пятрухіна была заведзена крымінальная справа паводле часткі 2 артыкула 188 («Паклёп») і часткі 2 артыкула 189 («Абраза») Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

## З чаго ўсё пачалося?

Падставай для прыцягнення блогера да крымінальнай адказнасці па артыкуле «Паклёп» стаў відэаролік *«Цудоўная чацвёрка_3. Насаты. Фінал»*. У ім Пятрухін пераказаў гісторыю жыхара Брэста **Паўла Камінскага**. Паводле яго слоў, пару гадоў таму Павел Камінскі быў беспадстаўна жорстка збіты ўчастковымі Ленінскага РУУС Брэста пры адміністрацыйным затрыманні. Дзіўна, што адбылася гэтая драматычная гісторыя ў Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь у кафэ, куды Павел зайшоў з сябрам адзначыць дзяржаўнае свята.

*«Закруцілі мне рукі, сілай зацягнулі ў апорны пункт міліцыі на вуліцы Спартыўнай і там жорстка збілі. Пагражалі забіць, а затым вывалаклі з апорнага пункта на вуліцу і пырснулі з балончыка ў вочы»*, – распавядаў сам Павел Камінскі.

Тым не меней Следчы камітэт не прыняў пад увагу сведчанні Камінскага і ўпарта не бачыць прычын для ўзбуджэння крымінальнай справы супраць міліцыянтаў, якіх нават не адхілілі ад выканання абавязкаў на час разбіральніцтва. Усё, чаго за два с паловай гады сумеў дамагчыся Камінскі, гэта 126 дзён праверак у суме, сем адмененых пастаноў следчага райаддзела, так і не пачатае паўнавартаснае расследаванне справы.

## «…А мы прыйшлі падтрымаць сваіх»

Пачалі судзіць блогера 9 красавіка, а ўжо 18-га вынеслі прысуд Суддзёй па гэтай справе быў прызначаны добра вядомы брэсцкім актывістам **Аляксандр Семянчук**. Толькі за апошнія два гады гэтым суддзёй Ленінскага раёна Брэста былі пакараны арыштамі і штрафамі 22 працаўнікі будаўніцтва акумулятарнага завода, актывісты і незалежныя журналісты. Сярод ягоных «ахвяр» – **Мікола Статкевіч, Віталь Казак, Аляксандр Кабанаў, Яўген Скрабец, Андрэй Шарэнда** і многія іншыя актывісты.

Пра тое, што справа сапраўды рэзанансная, сведчылі чэргі з міліцыянтаў на судовы працэс блогера. На першым пасяджэнні прысутнічала каля сарака міліцыянтаў, апранутых у цывільнае. На суд нават не ўдалося патрапіць праваабаронцам **Алесю Бяляцкаму** і **Валянціну Стэфановічу**, якія прыехалі правесці маніторынг судовага працэсу. Іх вывеў АМАП.

Калі Алесь Бяляцкі спытаўся ў міліцыянтаў пра сумленне, то адзін з іх ганарліва адказаў: *«Нам не сорамна! Вось вы ж прыехалі падтрымаць сваіх, а мы прыйшлі падтрымаць сваіх!»*

Гісторыя з поўнай залай міліцыянтаў працягвалася кожнае пасяджэнне працэсу. Прадстаўнікоў брэсцкай міліцыі запускалі праз чорны ўваход, пакуль суд быў зачынены на абед. З'язджалі яны на службовым транспарце. Толькі незразумела: з якіх гэта пор міліцыянты ездзяць на службовых машынах па выхадных?

Алесь Бяляцкі параўнаў суд над Сяргеем Пятрухіным з працэсамі над савецкімі дысідэнтамі ў 1970-я гады:

*«Мы не змаглі прысутнічаць на адкрытым працэсе, хоць маем на гэта права. Звярталіся мы і да суддзі, каб прадаставілі большую залу для судовага пасяджэння, але наша просьба была праігнаравана. Мы напісалі скаргі на тое, што парушаецца працэдура адкрытасці і празрыстасці вядзення судовага працэсу, а суддзя Семянчук выклікаў АМАП, і нас проста пад рукі па адным вывелі. На маёй памяці такое было апошні раз гадоў 20 таму…»*

## «Гэты суд – ціск на свабоду слова ў Беларусі»

Паралельна з судовым працэсам больш за дзясятак беларускіх праваабарончых арганізацый і дэмакратычных аб'яднанняў выступілі з заявай, у якой патрабавалі спыніць крымінальны пераслед у дачыненні да брэсцкага блогера Сяргея Пятрухіна. Яны выказалі сур'ёзную занепакоенасць у сувязі з крымінальным пераследам блогера. На думку праваабаронцаў, гэта можа сведчыць аб узмацненні кантролю над інтэрнэт-сферай напярэдадні будучых выбараў. Увогуле праваабаронцы настойваюць на тым, каб Крымінальны кодэкс не выкарыстоўвалі па справах, звязаных з дыфамацыяй.

Сяргей Пятрухін хадайнічаў аб агалошванні на судзе гэтай заявы і далучэнні яе да матэрыялаў справы. Суддзя Семянчук задаволіў просьбу блогера.

## Пятрухін: «Думаў, што мне дадуць«хімію»…»

18 красавіка суддзя Аляксандр Семянчук вынес прысуд блогеру: штраф у памеры 360 базавых велічынь (9180 рублёў). Суд задаволіў і грамадзянскія іскі пацярпелых. Пятрухіна абавязалі выплаціць маральную шкоду пацярпелым супрацоўнікам Ленінскага РАУС г.Брэста Сяргею Ігнацюку, Дзмітрыю Якушэвічу, Ігару Галянцічу і Сяргею Такуну па 7750 рублёў. Акрамя гэтага, суддзя абавязаў выплаціць судовыя выдаткі. Такім чынам Сяргей Пятрухін агулам абавязаны выплаціць (у эквіваленце) каля дзевяці тысяч долараў.

## «…Як ухіленне ад пакарання»

На платформе MolaMola пачаўся збор сродкаў на пагашэнне буйнога штрафу блогера. Сяргей Пятрухін паспеў сабраць такім чынам за 2,5 месяца менш за дзясятую частку патрэбнай сумы. Сэрвіс MolaMola заблакіраваў кампанію па зборы сродкаў на штраф. Блогер атрымаў ліст, у якім сцвярджалася, што *«такая дзейнасць можа быць расцэнена як спроба ўхілення вінаватай асобы ад прызначанага пакарання»*.

Паводле слоў Пятрухіна, ён паспеў зняць тую суму грошай, якую яму пералічылі праз гэты сэрвіс. Але якім чынам будзе шукаць грошы на аплату астатняй сумы штрафу, блогер пакуль не ведае.

## «Мяне пакаралі дзеля таго, каб я маўчаў»

Брэсцкі блогер абскарджвае прысуд суда, бо не лічыць сябе вінаватым. 5 ліпеня абласны суд разгледзеў апеляцыю Сяргея Пятрухіна. Але адразу блогер ставіўся скептычна да абскарджвання:

*«Ніводная лінгвістычная экспертыза не напісала ў заключэнні, што я некага абразіў. Але каго гэта хвалявала? Мяне пакаралі дзеля таго, каб я маўчаў, а не крытыкаваў уладу. Таму няма вялікіх спадзяванняў і на вышэйшую інстанцыю, хаця мне таксама будзе што на судзе сказаць»*.

Абласны суд сапраўды пакінуў рашэнне ніжэйстаячай інстанцыі ў сіле, а скаргу Пятрухіна – без задавальнення. Прысуд суда першай інстанцыі ўступіў у законную сілу. У Сяргея Пятрухіна ёсць месяц на тое, каб заплаціць больш за 17 тысяч рублёў.

Але, нягледзячы на ўсе акалічнасці, Сяргей Пятрухін спадзяецца ўсё ж такі дамагчыся справядлівасці і адмяніць прысуд суда Ленінскага раёна г.Брэста. Блогер паведаміў, што мае намер прайсці ўсе судовыя інстанцыі Беларусі, а потым, калі будзе неабходнасць, ён звернецца ў Камітэт па правах чалавека ААН.

**Дзіяна ПІНЧУК.**

К СВЕДЕНИЮ

# Отдельные пункты минимальных стандартных правил в отношении обращения с заключенными

## (Из правил Нельсона Манделы)

*Приняты Резолюцией Генеральной Ассамблеи ООН 17 декабря 2015 года*

***

Все заключенные должны пользоваться уважительным отношением вследствие присущего им достоинства и их ценности как человеческой личности. Ни один заключенный не должен подвергаться пыткам и другим жестоким, бесчеловечным или унижающим достоинство видам обращения или наказания, все заключенные должны быть защищены от них, и никакие обстоятельства не могут служить оправданием для них. Должна постоянно обеспечиваться охрана и безопасность заключенных, персонала, лиц, предоставляющих услуги, и посетителей.

***

Целями приговора к тюремному заключению или к аналогичному лишению свободы являются главным образом защита общества от преступников и сокращение случаев рецидивизма. Эти цели могут быть достигнуты только в том случае, если срок заключения используется, насколько это возможно, для обеспечения реинтеграции таких лиц в общество после их освобождения, с тем чтобы они могли вести законопослушный и самостоятельный образ жизни.

В этой связи тюремной администрации и компетентным органам следует предоставлять надлежащие и имеющиеся возможности для получения образования, профессиональной подготовки и работы, а также другие виды помощи, в том числе исправительного, морального, духовного, социального, медицинского и спортивного характера. Все такие программы, мероприятия и услуги должны осуществляться с учетом индивидуальных потребностей перевоспитания заключенных.

***

Тюремный режим должен стремиться сводить до минимума ту разницу между жизнью в тюрьме и жизнью на свободе, которая ослабляет чувство ответственности заключенных или уважение их достоинства как человеческой личности.

Тюремная администрация принимает все разумные меры по размещению и адаптации для обеспечения того, чтобы заключенные с физическими, психическими или иными недостатками имели полный и эффективный доступ к жизни в тюрьме на равноправной основе.

***

Все помещения, которыми пользуются заключенные, особенно все спальные помещения, должны отвечать всем санитарным требованиям, причем должное внимание следует обращать на климатические условия, особенно на кубатуру этих помещений, на минимальную их площадь, на освещение, отопление и вентиляцию.

***

В помещениях, где живут и работают заключенные:

a) окна должны иметь достаточные размеры для того, чтобы заключенные могли читать и работать при дневном свете, и должны быть сконструированы так, чтобы обеспечивать доступ свежего воздуха, независимо от того, существует или нет искусственная система вентиляции;

b) искусственное освещение должно быть достаточным для того, чтобы заключенные могли читать или работать без опасности для зрения.

***

Санитарные установки должны быть достаточными для того, чтобы каждый заключенный мог удовлетворять свои естественные потребности, когда ему это нужно, в условиях чистоты и пристойности.

***

Каждому заключенному следует обеспечивать отдельную койку в соответствии с национальными или местными нормами, снабженную отдельными достаточными спальными принадлежностями, которые должны быть чистыми в момент их выдачи, поддерживаться в исправности и меняться достаточно часто, чтобы обеспечивать их чистоту.

***

Тюремная администрация должна в обычные часы обеспечивать каждому заключенному пищу, достаточно питательную для поддержания его здоровья и сил, имеющую достаточно хорошее качество, хорошо приготовленную и поданную.

Каждый заключенный должен располагать питьевой водой, когда возникает такая потребность.

***

Предоставление медико-санитарного обслуживания заключенным является обязанностью государства. Заключенным должны быть обеспечены те же стандарты медико-санитарного обслуживания, которые существуют в обществе, и им должен быть обеспечен бесплатный доступ к необходимым медико-санитарным услугам без какой-либо дискриминации по признаку их правового статуса.

Медико-санитарное обслуживание следует организовывать в тесном контакте с системой государственных органов здравоохранения и таким образом, чтобы обеспечить непрерывность лечения и ухода, в том числе в связи с ВИЧ, туберкулезом и другими инфекционными заболеваниями, а также наркозависимостью.

***

Врач или, если это применимо, другие квалифицированные медицинские специалисты должны иметь ежедневный доступ ко всем больным заключенным, ко всем заключенным, которые жалуются на проблемы с физическим или психическим здоровьем или на травмы, и к любому заключенному, на которого было обращено их особое внимание. Все медицинские осмотры должны проводиться в условиях полной конфиденциальности.

***

1. Ни при каких обстоятельствах не могут налагаться ограничения или дисциплинарные взыскания, равнозначные пытке или другим жестоким, бесчеловечным или унижающим достоинство видам обращения или наказания. В частности, следует запретить применять следующие виды практики:

a) одиночное заключение на неопределенный срок;

b) длительное одиночное заключение;

c) помещение заключенного в камеру без освещения или в постоянно освещаемую камеру;

d) телесное наказание или уменьшение рациона питания или питьевой воды заключенного;

e) коллективное наказание.

2. Никогда нельзя применять в качестве меры взыскания за дисциплинарные нарушения средства усмирения.

3. Дисциплинарные взыскания или ограничительные меры не должны включать запрет на контакты с семьей. Ограничения на контакты с семьей могут устанавливаться лишь на непродолжительный срок и только если это требуется для поддержания безопасности и порядка.

***

1. Труд заключенных не должен приносить им страданий.

2. Заключенные не должны содержаться в рабстве или подневольном состоянии.

3. Ни один заключенный не обязан работать ради личной или частной выгоды кого-либо из тюремного персонала.

***

Во всех тюремных учреждениях заключенным следует обеспечивать возможности отдыха и культурной деятельности в интересах их физического и психического здоровья.

***

Подследственным заключенным всегда следует предоставлять возможность трудиться, однако работа им в обязанность не вменяется. Если такой заключенный решает работать, его труд должен оплачиваться.

ИХ ДЕМОКРАТИЯ

# Политзаключенные в России

Вице-президент фонда «Свободная Россия» **Владимир Кара-Мурза**, выступая на заседании Совета ООН по правам человека, заявил, что за последние четыре года политзаключенных в РФ стало в шесть раз больше.

Кара-Мурза напомнил, что российский академик **Андрей Сахаров**, выступая в декабре 1976 года с Нобелевской лекцией, назвал имена 126 узников совести. По данным правозащитного центра «Мемориал», **в настоящее время в России 297 человек, которых преследуют по политическим или религиозным мотивам.**

«Эта цифра продолжает расти, – отметил Владимир Кара-Мурза. – Преследование политзаключенных в России нарушает не только Конституцию РФ, но и обязательства России, закрепленные во Всеобщей декларации прав человека, а также в итоговом документе Венской встречи ОБСЕ и Европейской конвенции по правам человека».

*«Народная Воля» в Facebook www.facebook.com/nv.online.info*

*в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo*

МНЕНИЕ ЮРИСТА

# Дело Михаила Жемчужного



Михаил Жемчужный *(на фото)* – ученый, инженер, кандидат технических наук, учредитель некоммерческой организации «Платформ Инновейшн» – с августа 2014 года находится в заключении; в настоящее время отбывает наказание в исправительной колонии в Горках, славящейся своим жестоким режимом.

По приговору Витебского областного суда, который рассмотрел уголовное дело в закрытом режиме, Михаил Жемчужный был признан виновным в подстрекательстве к умышленному разглашению иных сведений, составляющих служебную тайну, лицом, имеющим (имевшим) доступ к этим сведениям; в незаконном приобретении в целях сбыта и сбыте специального технического средства, предназначенного для негласного получения информации; в незаконном приобретении в целях сбыта и сбыте специального технического средства, предназначенного для негласного получения информации, совершенного повторно; в даче взятки, даче взятки повторно.

В декабре 2015 года влиятельные правозащитные организации Беларуси признали Михаила Жемчужного политическим заключенным: лишение свободы к нему было применено по политическим мотивам; «в нарушение права на справедливое судебное разбирательство, гарантированное Международным пактом о гражданских и политических правах; лишение свободы было основано на вменении в вину спровоцированных представителями государства, а значит – не являющихся преступными деяний, а продолжительность или условия лишения свободы явно непропорциональны правонарушению, в котором лицо было признано виновным».

Суд установил, что Жемчужный предварительно договорился с сотрудником органов внутренних дел – офицером из медицинского вытрезвителя управления внутренних дел Витебского облисполкома – о том, что тот будет передавать в правозащитную организацию сведения о различных происшествиях: гибели заключенных, совершении преступлений и проступков сотрудниками МВД, которые «Платформа» собиралась предавать гласности и использовать в правозащитной деятельности. За эти сведения информированный сотрудник был не против получать вознаграждение.

В результате Михаил Жемчужный какое-то время получал служебные документы с информацией, которая, по его мнению, представляла общественный интерес: сведения об уголовных делах, возбужденных в отношении должностных лиц, сводка за 2012–2013 годы о происшествиях с участием сотрудников правоохранительных органов, спецдонесение по факту скоропостижной смерти гражданина Куделко в ИВС УВД Витебского облисполкома, приказ МВД «Об отдельных аспектах работы с кадрами в МВД». Согласно приговору, за предоставление такой информации М.И.Жемчужный передавал сотруднику органов внутренних дел денежные средства по 100 долларов США за каждый «улов». Также, по утверждению следствия, Жемчужный передал данному сотруднику специальные технические средства, предназначенные для негласного получения информации: милиционер настаивал, что ему будет удобнее записывать информацию на совещаниях с применением замаскированных микрофонов.

Оказалось, что большая часть сведений, переданных Жемчужному, являлась выдумкой оперативников: офицер с самого начала сообщил по инстанции о своей «вербовке» и в дальнейшем играл свою роль под контролем специалистов из УКГБ по Витебской области, окончательной целью которых было выявление связей Жемчужного с иностранными гражданами. При этом совершение Михаилом Жемчужным отдельных противоправных действий не пресекалось оперативниками, давая возможность объекту довести их до конца с целью выявления каналов связи и проверки его на причастность к совершению шпионажа. Это означает, что противоправное поведение Жемчужного стало результатом провокации преступления, где сотрудник милиции вопреки своему предназначению активно вовлекал объект в совершение все новых преступлений с целью искусственного создания доказательств вины.

Приговором Витебского областного суда от 10 июля 2015 года (с учетом изменений, внесенных в приговор Верховным Судом), Михаил Игоревич Жемчужный был приговорен к шести с половиной годам лишения свободы в условиях строгого режима.

Правозащитники отмечали тогда, что своевременное пресечение деятельности Жемчужного позволило бы существенно снизить степень общественной опасности вмененных ему деяний и назначить ему гораздо более мягкое наказание; но такие действия КГБ вполне укладывались по смыслу в проводимую Комитетом государственной безопасности в 2012–2014 годах серию резонансных задержаний и обвинений в измене государству (А.Гайдукова, А.Алесина, В.Лазаря), которые не закончились вынесением соответствующих обвинительных приговоров, но в значительной степени преследовали цель повышения роли и значимости КГБ в государстве неприемлемыми в демократическом обществе методами.

Отношения Жемчужного и уголовно-исполнительной системы сразу не задались: еще в СИЗО-2 г.Витебска он сообщал об избиении его сотрудниками изолятора, а в колониях политзаключенный неоднократно подвергался наложению необоснованных взысканий, был признан злостным нарушителем режима содержания и поставлен на профилактический учет как «склонный к экстремистской и иной деструктивной деятельности».

Побывав в колониях в Новосадах и Волковыске, Михаил Жемчужный был переведен в колонию №9 г.Горки. Среди заключенных эта колония имеет дурную славу и, как оказалось, заслуженно: в первые же дни с Жемчужным разыграли хитроумную комбинацию, основанную на неформальных «понятиях» для того, чтобы перевести в своеобразную касту неприкасаемых, которые выполняют самую грязную работу, становятся изгоями с «низким статусом».

С весны 2017 года политзаключенный проводит практически все время в штрафном изоляторе или в помещении камерного типа – этакой тюрьме на территории колонии, где заключенные практически все время проводят взаперти в камере. Поводы для помещения в изолятор одинаковые: Жемчужный отказывается проследовать в общежитие отряда и занять указанное место, поскольку от заключенных ему поступают угрозы физической расправы.

Об этом известно администрации колонии, но ничего для исправления ситуации не делается: по закону Жемчужного обязаны поместить в безопасное место. А туда его не помещают, поскольку опасности для заключенного не усматривают. Это понятно: не для того политзаключенному создали такие проблемы, чтобы тут же их и решить.

Более того, заключенным, которые отказываются помогать администрации фальсифицировать нарушения, приходится несладко: в 2017 году один из них составил обращение в суд Борисовского района с просьбой обеспечить его безопасность, поскольку, *«дав письменные объяснения о невиновности Жемчужного М.И. в сфабрикованных против него обвинениях … подвергся преследованию со стороны администрации ИК-14»*.

Несмотря на постоянное давление, которое оказывает на власти правозащитное сообщество, дело политзаключенного до сих пор не пересмотрено. Поэтому характер заявлений правозащитников изменился, и они требуют освобождения Михаила Жемчужного: проведенные в заключении без малого пять лет с лихвой покрывают любые нарушения закона, допущенные политзаключенным.

**Павел САПЕЛКО, юрист.**

*В декабре 2015 года Генеральная Ассамблея ООН постановила расширить рамки Международного дня Нельсона Манделы и использовать его также для содействия обеспечению гуманных условий тюремного заключения, повышения осведомленности о том, что заключенные являются неотъемлемой частью общества, и для признания значимости работы персонала пенитенциарных учреждений как социальной службы особой важности.*
*(Сайт un.org)*

СТОП-КАДР

## У Маскве падчас пратэстных акцый было затрымана 39 чалавек, у Парыжы – звыш 170



Масква.


Парыж.

У Мінску мінулая нядзеля была спакойнай, а вось у Маскве і Парыжы адбыліся масавыя пратэстныя акцыі. У Белакаменнай дэмакратычная грамадскасць патрабавала ад улад дапусціць апазіцыйных кандыдатаў да ўдзелу ў выбарах у гарадскую Думу. У Парыжы зноў заявілі пра сябе “жоўтыя камізэлькі”.

Калі ў Маскве міліцыя затрымала 39 чалавек, то ў Парыжы – звыш 170.

НУ И НУ!

## В аэропорту Лондона 12-летнему мальчику удалось без билета попасть на борт самолета

*Полиция лондонского аэропорта Хитроу расследует, каким образом 12-летнему мальчику удалось обойти все проверки и пробраться на борт самолета без билета или посадочного талона.*

Ребенок без сопровождения взрослых и проездных документов смешался с остальными пассажирами, которые совершали посадку на рейс в Лос-Анджелес, и был замечен только на борту самолета, когда бортпроводники попросили посадочный талон мальчика, чтобы провести его на место в самолете.

Мальчик, который, вероятно, является нидерландцем, отказался ответить бортпроводникам и покинуть самолет. В результате ребенка вывели из самолета полицейские.

Вследствие нарушения безопасности воздушное судно пришлось эвакуировать, и все пассажиры были вынуждены пройти повторную проверку безопасности, в результате чего вылет самолета задержался более чем на 4 часа.

СЛЫШАЛИ?

## В Риме туриста оштрафовали на 550 евро за кражу монет из фонтана

Полицейский патруль, который осуществлял проверку на Пьяцца-Навона, увидел в одном из фонтанов – фонтане Мавра – мужчину, который собирал монеты.

Когда мужчина увидел правоохранителей, то тщетно пытался спрятать монеты в карман.

В результате инцидента монеты конфисковали, а 36-летнего туриста оштрафовали.

ПРЕЗЕНТАЦИЯ

## Во Франции показали атомную подлодку нового поколения

Первую из шести лодок «Барракуда» назвали «Сюффрен» – в честь легендарного французского адмирала Сюффрена. Подводную лодку строили более десяти лет на верфи в Шербуре. На воду ее спустят в конце июля, а в состав флота должны ввести летом 2020 года.

«Барракуды» – многоцелевые атомные подводные лодки. Они не имеют ядерных ракет, но передвигаются в море благодаря ядерной силовой установке.




СЕНСАЦЫЯ

# Як Уладзімір Ліпскі «рэаніміраваў» сына Івана Грознага…



*Чулі? У сваёй новай кнізе «Цар» знакаміты пісьменнік Уладзімір Ліпскі зрабіў сенсацыйнае адкрыццё: паводле яго творчых даследаванняў, Дзімітрый Вугліцкі, ці Лжэдзімітрый I, з'яўляўся законным сынам Івана Грознага. А выхоўваўся ён прадстаўнікамі самых уплывовых і вядомых родаў Вялікага Княства Літоўскага – Радзівілаў і Сапегаў.*

*Чаму Уладзімір Сцяпанавіч прыйшоў да такой высновы – у яго інтэрв'ю «Народнай Волі».*

– Мяне даўно хвалявала пытанне: як здарылася, што малодшы сын Івана Грознага ад восьмай ягонай жонкі Марыі Нагой Дзімітрый загінуў так выпадкова, так недарэчна… Дзевяць гадоў усяго было хлопчыку. Паводле афіцыйнай версіі, малы гуляў з сябрамі і напароўся на ножык. А здарылася гэта ў Вуглічы, у маёнтку маці, пад Масквой.

Паводле другой версіі, Дзімітрый быў забіты. А падаслаў забойцаў Барыс Гадуноў. Давайце паразважаем: кім быў гэты баярын? Пачынаў кар'еру з ахоўніка Івана Грознага, пасля стаў яго прыбліжаным. Па сутнасці, менавіта яму была карыснай смерць апошняга нашчадка цара, бо пасля Івана Грознага трон адышоў да старэйшага сына Фёдара, блажэннага. Кіраваў жа пры ім Барыс Гадуноў і адмаўляцца ад улады не хацеў. Нават сваю родную сястру Ірыну аддаў замуж за Фёдара, сам жа ажаніўся з дачкой галоўнага апрычніка Малюты.

Хлопчык Дзімітрый быў апошнім нашчадкам Івана Грознага. І адыход улады да малога і яго маці не ўваходзіў у планы Гадунова.

Я ж прытрымліваюся версіі, што замест сапраўднага малодшага сына Івана Грознага быў забіты нейкі іншы, дваравы, хлопчык. Вельмі ж хутка царэвіч быў пахаваны, а сведак ліквідавалі або з выразанымі языкамі адпраўлялі ў Сібір. Нашчадка ж вывезлі ў ВКЛ. І да яго ператавання меў дачыненне сам Леў Сапега, вялікі канцлер вялікай дзяржавы. Дзімітрыя выхавалі, вывучылі, а пасля зноўку вярнулі і пасадзілі на трон.

Дарэчы, многія класікі браліся за гэтую тэму, спрабавалі разгадаць яе таямніцы. Сярод іншых – Аляксандр Пушкін, Марына Цвятаева…

**– З чаго пачалося ваша даследаванне? На якія гістарычныя факты і дакументы абапіраліся пры напісанні твора?**

– Па-першае, неяк мне выпадкова трапіў на вочы дзённік Марыны Мнішак, жонкі Дзімітрыя I, пра яе шлях з Польшчы ў Маскву праз тэрыторыю сучаснай Беларусі да свайго мужа. А ехала яна на каранацыю. Якраз Марыне Мнішак, прадстаўніцы знатнага польскага роду, пашанцавала стаць першай жанчынай, якую каранавалі ў расійскай дзяржаве. Пасля ўжо была Кацярына I…

Па-другое, я шмат працаваў у архівах, раскручваў гэтую тэму, шукаў пацвярджэнні сваёй даволі смелай версіі. І знаходзіў! Уся работа над кнігай заняла ў мяне пяць гадоў. Перад тым як нешта напісаць, звяраў з гістарычнымі крыніцамі. Я ж не мог выдумляць факты. Шмат крыніц перачытаў – і архіўных, і літаратурных.

Самае галоўнае – сам праехаў па апісаным у дзённіку Марыны Мнішак маршруце, спыніўся ў дваццаць адным населеным пункце Беларусі. І ў кожным знаходзіў пацвярджэнні таго, што каханая цара са сваёй світай магла там праязджаць у 1606 годзе. Акрамя таго, збіраў краязнаўчыя звесткі пра мясціны, багаты фальклорны матэрыял. Часткова яны выкарыстаны ў кнізе. З часам жа планую на іх падставе напісаць яшчэ адну кнігу пра родную краіну, яе культурнае і духоўнае багацце.

**– Як я зразумела, вы знайшлі пацвярджэнні сваёй версіі…**

– Так. Я амаль што на 90 працэнтаў упэўнены, что Дзімітрый I – гэта сын Івана Грознага, якога ператавалі. У зговары маглі быць задзейнічаны баяры і наш Леў Сапега. Канцлер быў у той час паслом у Маскве, а дзядзька Дзімітрыя Афанасій Нагой займаў пасаду (на наш час) міністра замежных спраў. Чаму ж не маглі яны сустрэцца і дамовіцца аб далейшым лёсе царэвіча?

Вядома, што Дзімітрый жыў у Брагіне ў магнатаў Вішнявецкіх. Слугой ён быў у іх ці яшчэ кім – дакладна не вызначана. Але і дагэтуль у брагінскім парку пад трыма тоўстымі векавымі ліпамі ляжыць камень, высечаны ў форме сэрца. І ўсе брагінцы кажуць: гэта камень Марыны і Дзімітрыя. Дарэчы, і я на свае вочы бачыў гэты валун падчас сваёй вандроўкі.

Паводле афіцыйнай версіі, Дзімітрый быў слугой у Вішнявецкага. І звалі яго Рыгор Атрэп'еў. Але ўсё не так проста. Той, каго называюць «прахадзімцам», «самазванцам», вельмі ж упэўнена і смела ўзышоў на трон. І надта ж адукаваны быў гэты «чарнец» і «манах», «павеса» і «п'яніца», каб быць проста слугой. Дзімітрый на троне быў амаль што рэфарматарам, не баяўся смелых рашэнняў і новаўвядзенняў. Рускі гісторык Васілій Ключэўскі так выказваўся аб Дзімітрыі: «Заквашаны расійскімі баярамі, а выпечаны ў ВКЛ». А наш сучаснік Эдвард Радзінскі ўпэўнены, што малады цар «привез в душную Московию опасный воздух свободной Речи Посполитой».

Да таго ж брат магната Вішнявецкага ажаніўся з адной з дачок польскага ваяводы Мнішака. На вяселлі мог прысутнічаць і Дзімітрый. Там ён пазнаёміўся з Марынай і закахаўся ў яе.

Лжэдзімітрый амаль год кіраваў Расіяй. Гэта быў незвычайны цар: падрыхтаваны, інтэлігентны, вывучаны. Сеўшы на каня, сам вёў войска. Плакаў, калі паміралі салдаты. Адкрыў вароты ў замежныя краіны. Хацеў моладзі даць дарогу на вучобу. Відаць, зусім іншы быў бы свет, калі б не зверглі Дзімітрыя.

**– Якой паўстае ў кнізе тагачасная Беларусь?**

– Марына Мнішак едзе з Польшчы да свайго каханага ў Маскву на каранацыю. Спыняецца ў 21 беларускім горадзе, пасёлку і вёсцы. Я сам праехаў па гэтым маршруце – ад Бярэсця да Оршы. Уявіце: едуць дзве тысячы падвод, тысячы людзей… За дзень яны праязджалі 30–40 вёрст. Прымаюць Марыну ў самых лепшых месцах, замках – як царыцу. Суправаджалі яе бацька, дзядзька, брат, а таксама людзі, якія вялі і Дзімітрыя на трон.

Для таго каб так шырока, з вялікім абозам праехаць па ВКЛ, патрэбна была моцная падтрымка. І забяспечыць яе маглі, зразумела, толькі Сапегі і Радзівілы. З Бярэсця Марына Мнішак едзе ў Камянец, пасля ў Шарашова. І сёння існуе гэтая вёска ў кіламетрах 40 ад Камянца. Яна незвычаная тым, што ўсе дамы стаяць бокам да вуліцы і скіраваны да цэнтра. У Шарашова, даведваюся, па тым часе была майстэрня іканапісі. Будучую царыцу сустракалі майстры, падарылі ікону. Пасля яна паехала ў Новы Двор. І гэта цікавейшая вёска ў самым канцы Белавежскай пушчы (цяпер гэта ўжо Свіслацкі раён), дзе змяшчалася летняя рэзідэнцыя каралёў польскіх.

Калі вандраваў па маршруце Марыны Мнішак, адкрываў для сябе легенды, песні беларускія. Усё гэта я выкарыстоўваю для апісання Беларусі таго часу. Такім чынам я адкрываю і родную краіну.

Пасля Новага Двара я еду ў Ружаны. Уяўляю: Леў Сапега прымае Марыну Мнішак у сваім замку. Гэта ж вялікая падзея. Ён меў поўнае права яе прыняць, а я – напісаць пра гэта. Канцлер паказвае царыцы склепы, бібліятэку, дорыць ёй – «Статут ВКЛ». А чаму не?

Пасля Ружанаў яна ў Слоніме. І там яе прымае сын Сапегі. Далей вёска Моўчаць, потым Цырын, потым Мір. Марыну Мнішак прымаюць у замку Радзівілы. Пасля яна робіць круг і заязджае ў Нясвіж. Тры ночы яна праводзіць у Мінску. І я ўслед за ёй вывучаю, якім быў Мінск на пачатку XVII стагоддзя, дзе яна магла быць, што бачыць. Удакладняю, хто быў кіраўніком горада.

Марына пераязджае цераз Днепр у Оршу, дзе яе сустракаюць баяры. І далей мяне ўжо не цікавіць яе падарожжа па Расіі. Пішу пра гэта пункцірам.

А перад Масквой ужо расстаўлены шатры, і будучая царыца ўязджае ў сталіцу. І маці Дзімітрыя, Марыя Нагая, якая была саслана ў манастыр, едзе на каранацыю ў залатой карэце. А побач пехам з адкрытай галавой яе суправаджае Дзімітрый…

Каранавалі Марыну на царыцу ў Крамлі. Падзея гэтая падрабязна апісана ў многіх гістарычных крыніцах. Суправаджаў яе на каранацыю князь Шуйскі, а сам ужо арганізоўваў змову.

Марына і Дзімітрый толькі дзве ночкі пабылі разам. Пасля Дзімітрыя раздзёрлі. Апошнія словы яго былі: «Сердце мое, измена!»

**– Уладзімір Сцяпанавіч, прызнайцеся: ці ёсць у рамане нейкая мастацкая выдумка?**

– У паралельнай сюжэтнай лініі рамана ўведзены цалкам выдуманы персанаж, наш сучаснік Зміцер з палескай вёскі Манькавічы па мянушцы Цар. Гэты хлопец дапамагае мне раскрыць тайну Дзімітрыя і Марыны, раскручваць лінію пра Івана Грознага, яго жонак. Гістарычныя факты тлумачыць ён па-простаму, недыпламатычна, з гумарам.

Аднойчы знаходзіць Зміцер на гарышчы нейкія дакументы. Аказалася, што ён не просты мужычок, а з дваран. Пачынае раскручваць свой радавод, едзе ў Брагін, далучае да пошукаў сына-камп'ютаршчыка. Пасля сустракаецца ў Мінску з вядомым драматургам, а ў таго ёсць непастаўленая п'еса пра цара Дзімітрыя-самазванца. Той таксама піша, што Дзімітрыя гадавалі ў ВКЛ з мэтай зрабіць унію – далучыць Масковію.

Зміцер просіць сваіх сына і дачку праехаць па маршруце Марыны Мнішак. І я заклікаю ўсіх чытачоў праехаць па гэтых незвычайных мясцінах. Я апісаў іх, як змог. Калі хто захоча нешта дадаць ці сказаць па-свойму, то буду рады – і гэта будзе асобная аповесць.

**– Як вы думаеце, кніга выкліча цікавасць у навуковых колах, у гісторыкаў?**

– Я чакаю гэтага! Упэўнены: кніга «Цар», якая вось-вось з'явіцца ў кнігарнях, стане сенсацыяй!

Будучых чытачоў хачу завабіць словамі, якімі пачынаю раман: *«Я па часе ў 410 гадах ад падзей, якія парушылі кардыяграму майго сэрца, але я жыву разам з сягоднікам па мянушцы Цар, які хоча разгадаць тайны свайго роду. Ён падмагае мне ў аповедзі неймаверна закручастай. Я на адлегласці 750 км ад Масквы, дзе адбывалася тое, што не дае мне спакою. Я жыву на зямлі, якая раней называлася ВКЛ. Тут цяпер мая радзіма Беларусь. Адсюль загарэлася, закруцілася, усчалася, узʼюрылася тая міждзяржаўная, міжчалавечая гісторыя-легенда, якая пякуча хвалюе не адно пакаленне гісторыкаў, пісьменнікаў. У тумане стагоддзяў хаваецца тайна жыцця і царавання Дзімітрыя і яго абранніцы царыцы Марыны Мнішак».*

**Кацярына МЯДЗВЕДСКАЯ.**

СКАНДАЛ

# «Они просто заврались!»

*Директор киностудии «Таджикфильм» Носир Рахмон отреагировал на публикацию «Народной Воли» (№50 за 28 июня), в которой известный режиссер Маргарита Касымова рассказала, что таджики нарушили условия контракта и отказались снимать белорусско-таджикский фильм, а группа кинематографистов осталась без гонораров.*

Осенью минувшего года **Маргарите Касымовой** предложили снять белорусско-таджикский фильм. Ее заверили, что проблем с финансированием не будет. Сценарий картины написал декан факультета экранных искусств БГАИ **Павел Иванов.**

«Провели подготовительный период, нашли композитора, подготовили режиссерскую версию сценария, отобрали актеров, но «Таджикфильм» отказался от съемок, не заплатив за проделанную работу», – рассказывал «Народной Воле» **Павел Иванов**.

Однако на «Таджикфильме» говорят, что условия договора нарушила сама Маргарита Касымова.

*«Мы планировали снять совместный фильм с «Беларусьфильмом», а Маргарита Наимовна предлагала снять фильм с частными киностудиями и просила огромные деньги за съемку фильма, поэтому мы отказались*, – цитирует Asia-Plus директора «Таджикфильм» **Носира Рахмона**. – *По плану белорусская сторона должна была оплатить расходы съемок на своей стороне, а таджикская – на своей. Мы дважды отправляли нашего представителя к ним, но «Беларусьфильм» отказался и сообщил, что не имеет бюджета для этого. А Маргарита Касымова с частными киностудиями просили 350 тысяч за съемку фильма, что очень дорого. За эту сумму в Таджикистане можно снять три фильма. К тому же мы не имеем права заключать договор с частной компанией».*

Замдиректора «Таджикфильма» **Толиб Рахматуллоев** утверждает, что все условия Касымовой выполнены.

*«Идея о совместном фильме появилась несколько лет назад*, – говорит он. – *Во время приезда Касымовой вновь заговорили об этом. Она обещала, что технику для съемок в Беларуси она берет на себя. Мы заключили все договора, и они отправили бюджет фильма на огромную для нас сумму. Мы не знаем, что и где будет сниматься, откуда такая сумма. Мы попросили ее отправить детализацию сметы, но до сих пор не получили ее. Мы не можем разбрасываться бюджетными деньгами, поэтому отказались».*

## «Народная Воля» попросила Маргариту Касымову прокомментировать слова руководства «Таджикфильма»

*«Самый дешевый фильм на «Беларусьфильме» стоит 600 тысяч долларов,* – говорит Маргарита Касымова. – *Мы предлагали сделать картину вдвое дешевле. Но когда директор «Таджикфильма» говорит, что за эту сумму они снимут три фильма… Таких цен нигде нет! Это только если на телефон снимать.*

*Детальную смету мы им прислали. И режиссерский сценарий, и календарно-постановочный план, где есть графа «Место съемок». И потом, смету в Таджикистан повез их представитель, начальник международного отдела «Таджикфильма», который сюда приезжал. Они просто заврались…*



*Представители «Таджикфильма» вели переговоры с «Беларусьфильмом». Директор нашей киностудии сказал, что окажет любое содействие, и я ему за это очень благодарна. Вы спрашиваете, почему таджики сами обо всем не договорились с руководством «Беларусьфильма»? Так им, видимо, некогда было, они приехали на два дня. Первый день осматривались, по магазинам ходили, на второй день я их покормила, они выпили бутылку водки и на следующее утро улетели.*

*А последний представитель «Таджикфильма», начальник международного отдела, который приезжал в Минск – человек деловой, его директор нашей картины свозил в Витебск, он уехал довольным.*

*Что касается частных студий, то мы хотели взять там лишь аппаратуру. Но если вас что-то не устраивает, не хотите снимать – закройте картину, но не заставляйте людей работать бесплатно!*

*На мой взгляд, директор «Таджикфильма» должен заплатить пятерым сотрудникам «Беларусьфильма» – второму режиссеру, оператору-постановщику, ассистенту режиссера и директору картины. И мне – по договору он должен мне 50 процентов, но пусть хоть 25 заплатит, а остальные пусть идут ему на лекарства. В общей сложности речь идет о 3,5 тысячи долларов.*

*Разговор с автором сценария Павлом Ивановым должен быть отдельным – они и по отношению к нему нарушили все обязательства!*

*У нас на руках есть все документы, где все четко расписано, в том числе и все выплаты. Так вот рассчитаться нужно по договорам, по контрактам, чтобы дело не дошло до большого международного скандала и суда! Надо уметь расставаться красиво…»*

Декан факультета экранных искусств БГАИ **Павел Иванов,** написавший сценарий белорусско-таджикского фильма, говорит, что ему до сих пор не заплатили ни копейки.

*«Мало логики в словах руководства «Таджикфильма»,* – высказывает свое мнение Павел Владимирович. – *В свой первый приезд в Минск их представители встречались с руководством киностудии «Беларусьфильм». И если киностудия отказала им в совместной работе, зачем вообще было заваривать всю эту кашу, заключать контракты, просить меня писать сценарий? Они говорят, что не имеют права работать с частными компаниями. Но «Таджикфильм» заключал договора просто с частными лицами. В договоре, который я подписал с «Таджикфильмом», сказано: в течение 15 дней они мне должны выплатить всю сумму. Но этого не произошло. Не имея прав на реализацию сценария, «Таджикфильм» заключал договоры с режиссером и другими людьми.*

*На Востоке главное – в любой ситуации сохранить свое лицо, репутацию. Так вот «Таджикфильм» в данном случае свое лицо потерял…»*

**Марина КОКТЫШ.**

СЛЫШАЛИ?

## Джеф Платт – лучший хоккеист Беларуси

*А Андрей Скабелка признан лучшим белорусским тренером.*

По завершении сезона-2018/19 “Прессбол” провел традиционный опрос по определению лучшего хоккеиста и лучшего тренера Беларуси.

Победителем признан главный тренер “Барыса” и национальной сборной Казахстана **Андрей Скабелка**, повторивший с клубом рекорд в КХЛ (выход в четвертьфинал Кубка Гагарина) и завоевавший у руля сборной Казахстана золото домашнего чемпионата мира в первом дивизионе.

Второе место по итогам опроса занял рулевой минского “Динамо” и сборной Беларуси **Андрей Сидоренко**, третья позиция досталась главному тренеру юниорской (U-18) сборной и ее базового клуба **Евгению Есаулову**, сообщает pressball.by.

Лучшим хоккеистом Беларуси последнего сезона стал нападающий “Йокерита” и национальной сборной Беларуси **Джефф Платт**. Вторым оказался защитник минского “Динамо” и сборной, участник “Матча звезд КХЛ-2019” **Кристиан Хенкель,** на третьем месте – форвард “Юности” **Михаил Стефанович.**

**Сергей НИКАНОРОВ.**

СМУТАК



## «Ён дазваляў нам доўгі час не хваляваццa пра апошнія рубяжы зборнай…»

*Не стала вядомага хакейнага варатара Аляксандра Шумідуба.*

17 сакавіка ён адзначыў 55-годдзе. Гэты чалавек ніколі не заставаўся раўнадушным да пытанняў развіцця беларускага хакея, не крытыкаваў кагосьці “за вочы”, а заўсёды адкрыта і смела называў рэчы сваімі імёнамі.

Аляксандр Шумідуб – выхаванец сталічнай школы “Юнацтва”, першыя крокі ў прафесійнай кар’еры рабіў у мінскім “Дынама”. У 1991 годзе прызнаваўся лепшым іграком Беларусі, быў прызёрам юнацкага чэмпіянату Еўропы, выйграў увесь камплект узнагарод нацыянальнага першынства.

Паводле некаторых звестак, некалькі дзён таму Аляксандру Шумідубу стала дрэнна пасля адной з трэніровак. Яго адвезлі ў бальніцу, там ён увайшоў у кому, а пазней і памёр.

*“Наша варатарская школа згубіла спецыяліста, які вельмі шмат зрабіў для яе развіцця*, – прыводзіць словы старшыні Федэрацыі хакея Беларусі **Генадзя Савілава** hcdinamo.by. – *Аляксандр Мікалаевіч належаў да той катэгорыі беларускіх галкіпераў, якія доўгі час дазвалялі нам не хвалявацца пра апошнія рубяжы нацыянальнай зборнай”*.

**Віктар ШПАК.**

КРЫМСКАЯ ЗОНА

# Як беларускі прадпрымальнік жыве ва ўмовах антырасійскіх санкцый

### Пераязджаў ва Украіну, апынуўся пад анексіяй

У прэстыжным раёне Севастопаля жыве бізнесмен, колішні дэпутат беларускага парламента, сам родам са Случчыны, Уладзімір Кудзінаў. Хутка 20 гадоў, як ён вымушана пераехаў ва Украіну, летась адзначыў 60-годдзе.

У 1990-х Кудзінаў быў вядомай асобай у беларускай публічнай прасторы. Ён адзін з герояў кнігі «Адзін дзень палітвязня» серыі «Бібліятэка Свабоды». У 1992 годзе стварыў у Івацэвічах гандлёва-прамысловае прадпрыемства, якое спецыялізавалася на вырошчванні буйной рагатай жывёлы і перапрацоўцы мясных вырабаў. Забяспечыў працай тры сотні чалавек. Быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га склікання, супрацоўнічаў з «Грамадзянскім дзеяннем».



### Спачатку была турма

У лістападзе 1996-га стаў адным з ініцыятараў імпічменту прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. Яго «настойліва прасілі» адклікаць подпіс, ён адмовіўся. А пасля без санкцыі калег-парламентарыяў на судовы пераслед абвінавацілі ў эканамічных злачынствах. Кудзінаў быў асуджаны на 7 гадоў зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Следам такі самы лёс напаткаў іншага агітатара за імпічмент – бізнесмена Андрэя Клімава.

У 2001 годзе справу Кудзінава пераглядзелі: пакаранне знізілі да 5 гадоў, з улікам амністыі і ўжо адбытага тэрміну ён выйшаў на волю. У той жа год з сям'ёй пераехаў да сваякоў у Севастопаль, дзе неўзабаве распачаў новую справу – адкрыў пад Еўпаторыяй дзве птушкафабрыкі.

### Лозунгі «Рускага адзінства» з’явіліся ў Крыме задоўга да анексіі

Цяпер Кудзінаў – генеральны дырэктар буйной аптовай кампаніі, якая пастаўляе мясныя субпрадукты з Расіі і Беларусі. Захоўвае беларускае грамадзянства: у Расіі ў яго від на жыхарства, да таго быў такі ж ва Украіне. Адзінае, удакладняе суразмоўца, – калі раней такі дакумент даваўся пажыццёва, то цяпер пераглядаецца кожныя 5 гадоў. Беларускае грамадзянства захоўвае перадусім дзеля таго, каб у выпадку палітычных змен вярнуцца на радзіму.

«Так, давялося рабіць выбар, – працягвае ён. – Бо калі ты грамадзянін нейкай дзяржавы і маеш від на жыхарства ва Украіне, то ва ўмовах расійскай адміністрацыі гэты статус стаў папросту несапраўдным. Едзь тады на мацярык у Адэсу ці Мікалаеў, там жыві са сваім “відам”. А каб быць рэзідэнтам і для падаткаабкладання, і наогул для ўсёй бізнес-дзейнасці, трэба мець від на жыхарства ў Расійскай Федэрацыі».

### Як у Крым трапляе беларуская прадукцыя

Уладзімір Кудзінаў кажа, што антыдэмакратычны разварот ва Украіне і ў Крыме пачаўся разам з прэзідэнцкай кадэнцыяй Віктара Януковіча. Тады пачалі ўмацоўвацца пазіцыі расійскіх вайскоўцаў у Севастопалі, легалізоўваліся пракрамлёўскія сілы, а дзяржаўныя актывы пераходзілі данецкім дзялкам. Усё гэта, на яго меркаванне, спрыяла дэўкраінізацыі.

«Многія праблемы ва Украіне ўзніклі разам з прыходам да ўлады Віктара Януковіча – усюды данецкія, усюды мафія. Гэта пры прэзідэнце Віктары Юшчанку, Юліі Цімашэнка ў рангу прэм'ер-міністра адчувалася развіццё, рух наперад. А каманда Януковіча была заклапочана толькі распілоўваннем бюджэту. Думаю, менавіта маральная і фізічная дэградацыя ўлады ўрэшце прывяла да Майдана», – кажа Кудзінаў.

### Уладзімір Кудзінаў на працоўным месцы

Прыкладна ў той жа час структуру ўласнага бізнесу вымушаны быў перагледзець і беларускі бізнесмен, змяніўшы свой статус з уласніка на найманага адміністратара.

«Былі на тое свае прычыны, але гэта не самамэта – каб абавязкова свая справа, – тлумачыць ён. – Можна нармальна прадаць веды і досвед іншаму працадаўцу. Што я і зрабіў. Нічога страшнага: нешта прыходзіць, нешта мінае. Не бачу праблем, што раней быў уласнікам, а цяпер найманым менеджарам. Прынамсі, меней нерваў, перажыванняў. Сельская гаспадарка – наогул рэч складаная, выгадней займацца перапрацоўваннем».

### Беларускі след у Сімферопалі

Партнёры фірмы Кудзінава – расійскія прадпрыемствы, якія займаюцца перапрацоўваннем мяса. У Севастопалі ёсць склады і халадзільныя камеры, дзе захоўваецца ялавічына, свініна, птушка. Нядаўна асартымент пашырыўся дзякуючы беларусам – пачаліся адгрузкі з Пастаўскага мясакамбіната. Пакуль гэта вытворныя буйной рагатай жывёлы, таму што беларуская свініна даражэйшая за расійскую – да таго ж у Расіі перавытворчасць свініны.

«Натуральна, узнікае праблема санкцый, – апярэджвае пытанне бізнесмен. – Але справа ў тым, што мы не працуем з беларускімі вытворцамі наўпрост – афіцыйна Мінск не прызнаў ні Крым, ні Абхазію, ні Паўднёвую Асецію. Але ў нас ёсць філіялы на мацерыковай частцы: купілі і нам перапрадалі з мінімальнай нацэнкай. Зрэшты, па такой жа схеме сюды паступае і ўся іншая беларуская прадукцыя».

### Адпачынак у Егіпце таннейшы за крымскі

Сярод асноўных заказчыкаў кампаніі Кудзінава – буйныя аздараўленчыя ўстановы паўвыспы: санаторыі, прафілакторыі, курортныя цэнтры. Насуперак чаканням, аб'ёмы паставак падаюць: адпачываць у Крыме робіцца ўсё даражэй, турысты мусяць эканоміць.

«Калі параўнаць з мінулым годам, санаторна-курортны перыяд спазняецца на месяц. Па-першае, надвор'е – позна прыйшла вясна, графік заездаў зрушыўся. Па-другое, у Расіі падае матэрыяльны ўзровень насельніцтва. Людзі ўжо не могуць траціць шмат грошай, як некалі. Па-трэцяе, адпачынак у Егіпце ці Турцыі ўжо таннейшы, чым тут. І хоць статыстыка кажа, што ў чэрвені прыехала нават больш, чым летась, калі глядзець на пакупніцкую здольнасць, гэтага не адчуваецца».

### Пафасная Ялта

Бізнесмен кажа, што, паводле ягоных назіранняў, колькасць беларусаў у Крыме зменшылася ў разы. Калі перад анексіяй ледзь не кожны дзясяты аўтамабіль у Севастопалі быў з беларускімі нумарамі, то ад пачатку сезона на вочы трапілася ўсяго некалькі машын з Мінскай і абласной рэгістрацыяй. Часам нерасійскіх турыстаў чакаюць непрыемныя сюрпрызы.

«Калі ў вас, напрыклад, картка расійскага Сбербанка ці ВТБ-банка, то можна зняць грошы ў банкамаце, – папярэджвае Кудзінаў. – Але карткі, выдадзеныя за мяжой, будуць заблакіраваны. Адпаведна трэба мець у запасе наяўныя. Зноў жа, калі ваш тэлефон зарэгістраваны, умоўна кажучы, у Польшчы, то на роўмінг можна нават не разлічваць. Дый нават беларускі – толькі на тэрыторыі Украіны, за пераходам сігнал знікае».

**Ігар КАРНЕЙ.**

(Радыё Свабода.)

НЕЧАКАНЫ РАКУРС

## Удава Рыгора Барадуліна аказалася без электрычнасці

*9 ліпеня адзначыла 80-годдзе ўдава народнага паэта Рыгора Іванавіча Барадуліна – Валянціна Міхайлаўна. Калегі, родныя і сябры сардэчна павіншавалі яе з юбілеем. Ціхі лагодны вечар яна правяла разам з унучкай Дамінікай, яе мужам Аляксеем і праўнукам Раманам.*

*Пасля вячэры госці разам праглядалі сямейныя фотаздымкі, якія ёсць не толькі ў кніжках, але і размешчаны на сайце www.baradulin.by.*

*А назаўтра службовы выканаўца Энергазбыту адключыў у яе кватэры электрычнасць, а ў паштовай скрынцы яна знайшла паведамленне аб вялікай запазычанасці за святло…*

Сітуацыя не з прыемных. Так некалі было і ў Леаніда Маракова, калі ён працаваў над даследаваннямі біяграфій рэпрэсаваных асоб і не меў сродкаў на аплату камунальных паслуг.

53 гады спадарыня Валянціна падтрымлівала класіка беларускай літаратуры Рыгора Барадуліна, клапацілася пра яго, без чаго не нараджаліся б геніяльныя вершы. Даглядала ў бальніцах, падстаўляла плячо і была галоўнай апорай у апошнія гады яго жыцця.

У 2014 годзе, калі Рыгора Іванавіча не стала, у яе апусціліся рукі. Сонца дабрыні зайшло за гарызонт. Яна кожны дзень лавіла сябе на думцы, што хоча яму нешта сказаць, падзяліцца, а яго ўжо няма.

Замест таго каб падтрымаць пажылую жанчыну ў яе смутку, так званая лечкамісія, дзе яна раней магла папраўіць здароўе, адмовіла ёй у паслугах і выкрасліла са сваіх спісаў. Ісці да незнаёмага ўрача і сядзець у чарзе ў паліклініцы не было сіл. Яна засталася адна ў кабінеце Рыгора Іванавіча, з успамінамі, думкамі, смуткам… З партрэтамі яго сяброў – Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, свекрыві Акуліны…

…І вось, пахаваўшы некалькі гадоў таму Рыгора Іванавіча, давялося першы дзень на дзявятым дзясятку сустрэць без святла.

Нікога з чыноўнікаў не цікавіць беларуская літаратура і вершы нацыянальнага генія. Яго жонку, імя якой засталося назаўсёды ў вершах і прысвячэннях паэта, палічылі цяпер неплацельшчыцай, а таму і адключылі электраэнергію. Хоць уся праблемя ў тым, што ўнучка проста забылася своечасова ўнесці аплату. Раней гэта рабіў сам Рыгор Іванавіч…

**Эла ДЗВІНСКАЯ.**

ФУТБОЛ

## Першы круг адгулялі

*Прайшлі матчы 15-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*

Вось іх вынікі: “Дняпро” (Магілёў) – “Энергетык-БДУ” (Мінск) – 3:4, “Мінск” – “Іслач” (Мінскі раён) – 3:3, “Дынама” (Брэст) – “Дынама” (Мінск) – 1:2, БАТЭ (Барысаў) – “Тарпеда-БелАЗ” (Жодзіна) – 4:1, “Тарпеда” (Мінск) – “Гомель” – 1:2, “Нёман” (Гродна) – “Слуцк” – 0:0.





Фота: dynamo-brest.by.

### Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| БАТЭ | 15 | 12 | 1 | 2 | 28–6 | 37 |
| Дынама (Бр) | 15 | 11 | 3 | 1 | 33–9 | 36 |
| Шахцёр | 14 | 10 | 1 | 3 | 22–11 | 31 |
| Дынама (Мн) | 15 | 9 | 1 | 5 | 22–15 | 28 |
| Тарпеда-БелАЗ | 15 | 8 | 3 | 4 | 22–15 | 27 |
| Іслач | 15 | 8 | 2 | 5 | 21–18 | 26 |
| Гарадзея | 14 | 5 | 5 | 4 | 10–12 | 20 |
| Нёман | 15 | 6 | 2 | 7 | 18–21 | 20 |
| Славія | 14 | 5 | 3 | 6 | 17–17 | 18 |
| Віцебск | 14 | 4 | 4 | 6 | 13–18 | 16 |
| Слуцк | 15 | 3 | 5 | 7 | 11–24 | 14 |
| Энергетык-БДУ | 15 | 3 | 5 | 7 | 22–38 | 14 |
| Мінск | 15 | 2 | 7 | 6 | 18–24 | 13 |
| Гомель | 15 | 3 | 3 | 9 | 23–27 | 12 |
| Дняпро | 15 | 2 | 4 | 9 | 14–25 | 10 |
| Тарпеда | 15 | 1 | 3 | 11 | 4–18 | 6 |

СІТУАЦЫЯ

## Матацыклістаў – да адміністрацыйнай адказнасці

*Супрацоўнікі ДАІ вынайшлі новы спосаб, як прымусіць кіроўцаў праходзіць тэхагляд.*

Праўда, гэта тычыцца толькі матацыклістаў.

У Гродзенскай вобласці быў затрыманы кіроўца матацыкла, які не прайшоў тэхагляд. За гэта ён быў аштрафаваны, а таксама атрымаў з ДАІ прадпісанне ў канкрэтны тэрмін прайсці тэхагляд. У выпадку невыканання прадпісання кіроўцу пагражала ўзбуджэнне супраць яго адміністрацыйнай справы.

Гэта моцна абурыла многіх аўта- і мотааматараў у вобласці. На мясцовым партале ABW.BY з’явіліся публікацыі і каментарыі, дзе аўтары гаварылі аб прамым парушэнні заканадаўства.

У прыватнасці, адзін з аўтараў піша, што праходзіць тэхагляд альбо не, а заадно і плаціць дзяржпошліну, кожны вырашае сам для сябе. Маўляў, у любым выпадку, калі кіроўца будзе затрыманы паўторна, то ён ізноў вымушаны будзе заплаціць штраф. Дарэчы, такую тактыку ў вобласці выбірае амаль кожны трэці кіроўца.

Урэшце, у адным з каментарыяў аўтар хоць і пагаджаецца з тым, што органы ўнутраных спраў маюць права на выдачу прадпісання, але ўсё ж толькі на выкананне вызначаных законам дзеянняў.

Маўляў, так, забараняецца ўдзельнічаць у дарожным руху на матацыкле, які не прайшоў тэхагляд, а вось што тычыцца “правесці мерапрыемства па допуску да ўдзелу ў дарожным руху матацыкла” – законнасць гэтых патрабаванняў выклікае сумненні.

З гэтай нагоды ДАІ Гродзенскага УУС дала свае тлумачэнні. На думку ДАІ, падобныя меры хоць і не самыя папулярныя, але даволі эфектыўныя. І такая практыка, аказваецца, прымяняецца не толькі ў Гродзенскай вобласці, а дзейнічае на тэрыторыі ўсёй Беларусі, прычым ужо не першы год.

Асобна падкрэслівалася, што дадзеная практыка прымяняецца толькі ў адносінах да матацыклістаў. І ў выпадку, калі кіроўца, якому выдадзена прадпісанне, не паведаміць аб яго выкананні ў ДАІ, то яго пошукаў ніхто арганізоўваць не будзе. Аднак калі інспектар ДАІ спыніць таго ж кіроўцу на тым самым матацыкле і прадпісанне не будзе выканана, то кіроўца будзе аштрафаваны.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ВІНШУЕМ!

## Гран-пры «Славянскага базару» атрымаў спявак з Казахстана

*Узнагароду яму ўрачыста ўручылі ўчора на гала-канцэрце закрыцця.*

Казахстанец **Адыльхан Макін** па выніках двух конкурсных дзён лідзіраваў з вялікім адрывам – ён набраў 178 балаў. Пераможца ўдастоены ўзнагароды «Ліра» і грашовай прэміі ў 20 тысяч долараў, паведамляе БЕЛТА.

**Георгій Путкарадзэ** з Грузіі і **Ілай** з Ізраіля набралі роўную колькасць балаў – 171. Але дзяліць першую прэмію, паводле статута, нельга. Старшыня журы **Тамара Гвердцытэлі**, якая валодае правам дадатковага голасу, аддала яе грузіну – ён стаў лаўрэатам першай прэміі і ўладальнікам узнагароды, грашовай прэміі ў памеры 15 тысяч долараў.

Другую прэмію ў памеры 5 тысяч долараў кожнаму і спецпрыз падзялілі адпаведна Ілай і беларус **Ваня Зданюк**, які набраў 170 балаў.





Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.

Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар
Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 15.07.2019 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж **32 000 экз**. Заказ № 2285.

